




# Літаратурная старонка

Трыбуна Беларускага літаратурнага аб'яднання ў Беластоку № 17




Іду з табой сярод жыта зялёнага,
Па палявой, заросшай, вузкай сцежцы.
Сто тысяч каласоў пакорна б'е паклоны
Тваім рукам, грудзям, усмешцы.

Неба ў васільках да ног тваіх схіляецца,
Росы дыяментамі стопы твае мочаць.
І аднаго у жыцці мне так жадаецца —
Бясконца цалаваць твае вусны і вочы

Эх, дарагія вочы васільковыя
Сыпнулі ў сэрца радасці прыгоршні.
З-за вас заўсёды быў гатовы я
Быць самым добрым, або стаць найгоршым.

Пылаюць твае вусны яркім полымем
У пацалунку і ў песні гучнай.
Мы пойдзем над раку лугамі, доламі,
Там абнімаць і цалаваць больш зручна.

## МАЯ ПЕСНЯ

На гармоні галасістай,
На цымбалах тонкаструнных
На жалейцы серабрыстай
Заіграю песню - думу.

Над лясным сівым масівам
І над кветкай адзінокай,
Над травой зялёнагрывай
І над нізаю шырокай.

Над курганам пастарэлым
І над рэчкаю — істужкай,
Над асінай акалелай,
Над дзяўчынай - беларускай

Над прыгорбленаю хатай,
І над ластаўкай - стралою,
І над змучаным аратым
Сваю песню заспяваю.

Аб жаданні, аб каханні,
Аб змаганні пакаленняў,
Аб змярканні і світанні,
Аб падзеях і імкненнях.

Гэтай добрай песні словы
Адшліфую у верша рыфме,
Усё жыццё аддаць гатовы
Песні - радасці
і песні - бітве.




Па сталёвых і звінячых жылах
У сялянскі цёмны дом сплыло.
Узняла страха высока крылы,
Анямела гарадскім святлом.

Вышаў змрок з кутоў, з пад лавы,
Збітым ворагам у лес папоўз.
Свяціць грушкі неугаснай славай
Ды паверыць цяжка ці ў сур'ёз.

Шчэ нядаўна пралі
У агні лучын,
Корч кідалі смольны
На камін.

Бабка усё злуецца і шапоча,
Хоць з пад столі палілося малако.
Разам з ёю злосна жмурыць вочы
Дальнявідны у змрку кот.

З за вакна глядзяць бярозы, вязы,
Кляшчуць у далоні, цешацца святлом.
Дзеці цягнуць рукі раз за разам:
Дай пагрэцца лампачак святлом.

Хіляць нізка голавы стагоддзі,
Вёска у рытміцы святлістых дзён.
Новае жыццё у дратах прыходзіць
Без сахі, цапоў і верацён.

А святло плыве, плыве патокам
Па сталёвых жылах у лісці бяроз.
Пасвятлеў усмешкай у куце высокім
Цемрай чалавечай змучаны Хрыстос.




Ноч прышла, дыхнула зорным роем,
Сціхаміраліся вербы над ракой.
Толькі неспакойны мы з табою двое,
Ды ў небе мітусня вякоў.

Мы сядзім — маленькія крышынкі
У параўнанні з ночы грамадой.
Гойдаюцца зоры, як бы вышлі з шынку,
Дзе прапіць хацелі маладосць.

Не прапіць, ім хопіць грошай-бляску,
Каб яшчэ мільёны год пражыць
І з сяўні паднебнай сыпаць ласкай
У чорныя зямныя рубяжы.

Вы не думайце, што я бездапаможны —
Рукі палажу дзяўчыне на плячах.
Добра на зямлі губамі лавіць можна
Зоркі ў дзявочых у вачах.

---

## РАЗВІТАННЕ

Мой добры дружа, мой шчыры дружа,
Падай, мне руку, заўтра растанне.
Вазмі з сабою юнацтва ружу
І песню бурных, летніх світанняў.

Мой верны дружа, стары мой дружа,
Заўтра пакоцяцца з рыпам калёсы.
Вецер над Нарвай вербы закружыць,
Ссыпле на плечы зялёную россып.

Мой родны дружа, ласкавы дружа,
Калі ўжо мяняеш жыцця каляіны,
Вазмі з сабою вясковую дужасць
І вобраз дзяцінства — узор павуціны.






Узмахнула крылом восень-шэрасць,
Жураўлі колюць неба стралой.
Пад нагамі рассыпаўся верас,
Акунуў мяне сумны настрой.

Не смяюцца ўжо больш мне даліны.
Вятры вербам сукенкі парвуць
І бясстыдна лісты-шматы кінуць
У азёрную, чорную муць.

Рассмяецца парывісты вецер
Над вярбовай тугой галізной.
Панясе ён свой рогат па свеце
І мой сумны, асенні настрой.




Лапамі махнатымі ёлкі ноч трывожаць
Сосны уцякаюць каронамі ў неба.
Ночка сыпле сажу, думае, варожыць,
Служыць урачыста жудасны малебен.

Паляглі ў лагчынах валацугі ветры,
Чорныя паляны дыхаюць спакоем.
У далёкіх, дзікіх, недаступных недрах
Выюць ваўчаняты ненаедным роем.

Не шукай спакою у белавежскай ночы,
Зараз ажывіцца пушчаная цемень,
Заіскрацца прагай звярыныя вочы,
Зубы заглыбяцца у хрыбты і ў цемя.

Барацьба, змаганне, дзікая расправа,
Уміраюць сэрцы, падаюць галовы.
Хто тут вінаваты, дзе тут знайсці правых? —
Хачу запытацца я у суддзяў соваў.

---

## КРЫЛЛІ

У верш апусціць мёд пчала,
Або слязою капне смутак.
Вясёласць з сумам папалам,
Каб толькі не было атруты.

Жыццё без смутку гэта мара,
Ён неадлучны ад вяселля.
Юнацтва выклікае старасць,
Субота зменіцца нядзеляй.

Не думай вечна аб магіле,
Чарпай з юнацтва пазалоты.
Туга і радасць гэта крыллі,
Без іх не распачнеш узлёту.

## МОЖА ПЕСНЮ

Можа звонкую песню
У лугах ты расыплеш,
Успамін уваскрэсне
У бярозавым скрыпе.

Як мы цёплай вясною,
З галавамі у зорках,
Вялі спрэчкі з сабою
На расістым узгорку.

Можа песню расыплеш
І мяне зноў успомніш,
Ды з бярозавым скрыпам
Прыплывеш пад мой
домік.

 







Ёсць прагрэс!

(«Н'ю-Йорк геральд трыбюн»)

## ПІСЬМАНОСЕЦ

З адчыненага акна Хведаравай хаты льецца бравурны марш з радыёапарата. Але яшчэ магутней гучыць голас Хведаравай бабы. Яна даказвае, што з Хведара гаспадар, як з вераб'я певень. І дзеці, як бы яе Бог пакараў, усе ў Хведара ўдаліся.

Невядома чаго б яшчэ даведаўся аб сабе Хведар, калі б не стук у аконную раму. Тут і абарваўся даклад. Выглянуўшы ў акно Хведар убачыў збянтэжанага пісьманосца які, пачырванеўшы, падаваў скромны сіні канверт. Пісьманосец, зразумела, чуў змест даклада і пачырванеў ці то за сябе — няпрошанага сведку ня тую мінуту, ці за людзей, якія ні сябе ні суседзяў не сорамяцца.

Каб развеяць нецікавы настрой, Хведар, намагаючыся прыдаць бестурботнасць свайму голасу, сказаў:

— Грамацеі завяліся, усё пішуць, а табе прыходзіцца разносіць. Ды ногі то не нанятыя...

— Усялякае пішуць, — згадзіўся пісьманосец. — Многія заграніцу пішуць — у Канаду, Англію... Адны пішуць, што час араць пад азіміну, а для гэтага 20 метраў нейлону патрэбна. Іншыя пішуць, што карова ацялілася і без ручнога гадзінніка ніяк не абыдзецца — патрэбна ж ведаць, у які час карміць і даіць яе. Яшчэ хто ўспомніць, што дачушцы трэці год пайшоў і просяць сваякоў, каб пасьпяшаліся з высылкай пасагу.

А сваячкі пісьмы чытаюць і ім здаецца, што без загранічнай дапамогі нам не падняць сельскай гаспадаркі і ніякага вяселля не згуляць.

Часта прыходзіцца разносіць павесткі, у якіх прыпамінаецца аб даўгах перад дзяржавай. Уручаеш такую паперку і самому непрыемна робіцца за нашых грамадзян.

Тут пісьманосец паправіў сумку, развітаўся і ўскочыў на веласіпед.

Эх, людзі мілыя, а чаму б нам не жыць так, каб пісьманосцам за нас чырванець не прыходзілася?

Дзядзька Лявонь.

### МУЖЫК У ЦАРКВЕ

Адзін мужык увайшоў у царкву ў шапцы і стаў наперадзе ўсіх. Другі ўбачыў яго і штурхнуў:

— Чаму ты шапкі не скідаеш? Той агляну́ўся і запытаў.

— А што, можа староста тут.

Прыслаў:

АЛЯКСЕЙ ШАХОВІЧ

в. Сакі, п. Пасынкі,

Бельскі пав.

### НЕ!...

Міліцыянер пытае ў селяніна:

— Жанеш, браток, самагонку ці не?

— Не! — адказвае селянін.

Міліцыянер завёў мужыка да апарату, ды ізноў пытае:

— Такі ў цябе апарат ці не?

— Не, у маім бочка меншая і вужок танчэйшы.

Прыслаў ЛЯВОН МІСЮК,

в. Ядэвічы

п-та Страбля

### НОВАЯ МУКА

Перад шэфам пекла — Люцыпарам, з'явіўся малады чорцік і пацірае ад радасці рукі:

— Гі-гі-гі, начальнік! Я знайшоў новую муку для маладых, грэшных жанчын. Грэшніцу трэба пусціць у вялікі пакой поўны прыгожых сукенак і не даць ёй люстэрка.

Прыслала:

ВЕРА РЭЕНТ

Гайнаўка

### КУПЛЯЎ

Шасцігадовы Пеця пытае ў маці:

— Мамачка, што азначае, калі хтосьці каго-небудзь ушчыпне?

— А гэта, сыночак, як хто што небудзь купляе, то ўперш пашчупае.

— О! то ўчора, мамка, як ты была ў Бельску, наш татка мабыць суседку Надзю купляў...

Прыслаў: МІКОЛА ГРЫГАРУК

в. Мякішы

п-та Пасынкі



— Прабачце, я надта спяшаюся.

### ЦАР І СМЕРЦЬ

Жыў аднойчы цар, які пакляўся:

— Не дамся я смерці, не забіўшы яе! Каб даць смерці належны адказ, ён заўсёды трымаў пры сабе панцыр і меч.

І вось, калі прыйшоў час і яго змагла хвароба, ён палажыў зброю каля сябе. Калі яму стала зусім кепска, ён схапіўся за меч, намагаючыся выцягнуць яго з ножанаў, але выцягнуць яго ўжо не хапіла сіл.

Ён пачаў тады лаяць смерць, гаворачы.

— Якое ж гэта геройства? Першна-перш ты адымаеш у чалавека сілу, а потым забіваеш яго. Сустрэнься са мною адкрыта, грудзь з груддзю, калі ты на самай справе адважная. В.

### НЕ ПАМОЖА

— Падумай, якая бяда. Увечары я не магу ні чытаць, ні пісаць.

— То чаму не ідзеш да лекара?

— А што мне лекар паможа, калі электрастанцыя выключае святло.

## БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ ПРЫКАЗКІ І ПРЫМАУКІ

Аднаму льецца, а другому нават не капае.

*

Дагэтуль чалавек добры, пакуль яго начальнікам не паставяць.

*

Не паглядай на чужых жонак: а то скасееш, ці здурнееш.

*

Ад сабакі, апрача блох, нічога не набярэшся.

*

Ляжучы не наясіся, даганяючы не нацалуешся.

*

Не той дурань каго завуць дурнем, а той дурань, хто чужым розумам жыве.

*

У галаве шуміць, шуміць! А ў кішэнях — ціха - ціха. А. Р.

ЧАСТУШКІ

## ПРА СКЛЕП У ЧЫЖАХ

У Чыжах ёсць склеп грамадскі
Новы — вока радуе:
За прылаўкам цуд-дзяўчына
Там тавары прадае.

Ды пра Ніну — пра скляпову,
Чуткі ходзяць не зусім,
Быццам гэтая дзяўчына
Прадае толькі сваім.

— А чужы і незнаёмы, —
Так расказваюць у нас, —
Прачакае і да заўтра,
Ён заўсёды мае час.

Бо ў склепе: — «То рэманент,
То парадкі трэ' рабіць,»—
Так скляпова вельмі часта
Для пакупнікоў бубніць.

Назбіраецца у склепе
Маладых дзяўчат, хлапцоў,
Ды сваёй гаворкай, смехам
Не падпусцяць нат купцоў.

Трэба, Ніна, дарагая
Пра работу болей дбаць
І тады на склеп сяляне
Больш не стануць наракаць.

Я. БЕРАЗАВЕЦ

## СВЕЖЫ ВЕЦЕР









(Огонёк)

Па слядах нашых матэрыялаў

У 35 (183) нумары «Нівы» за 30 жніўня 1959 г. на 8 стар. былі змешчаны частушкі пад загалоўкам «Ля Ласінкі на гасцінцы» пра паламаны на дарозе мост, які прычыняў шмат клапот мясцоваму насельніцтву.

Відаць змест частушак трапіў да сэрца Грамадскай радзе ў Ласінцы. Мост ужо адрамантаваны, усе ямы завожаны пяском. Людзі шлюць падзяку Грамадскай радзе, а старшыні жадаюць сто год і добрага здароўя. Да жаданняў далучаемся і мы. (я)

## РАНА РАНЕНЬКА




Рана-раненька ў садочку
Я ўбачыла слядочкі.
Хтось тут вечарам блудзіў,
Ля акна майго хадзіў.

Я пазнала — адгадала,
Так мне сэрца падказала:
Вечароваю парой
Тут хадзіў любімы мой.

Мама строга прыказала,
Каб я позна не гуляла,
Не ішла каб да сяла —
Дома вечарам была.

Ой, няўжо ёй невядома,
Што ўседзець нельга дома,
Калі любы пад акном,
Калі хораша кругом.

 